Настасся НАРЭЙКА

# БЛАСЛАЎЛЯЮ СВОЙ ВЕРШ НА ДАЛЁКІ ПАЛЁТ



***Настасся Нарэйка нарадзілася 28 кастрычніка 1986 года ў Маладзечне. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Вершы піша з 10 гадоў і толькі па-беларуску. Натхненне для яе — гэта снег, кава, пах цынамону, свечкі, гукі скрыпкі Ліндсі Сцірлінг, фільмы з Одры Хэпбёрн, раманы Рэмарка, Маладзечна і восеньскія доўгія вечары.***

* * *

Рукі пахлі кменам,
Збожжам і дажджамі,
Залацістым сенам,
Спелымі садамі,
Дзікім грэчкі мёдам,
Недасяжным небам,
Шумным карагодам
І шчаслівым хлебам.
Рукі мелі права
Пахі тыя знаці,
Імі нас ласкава
Абнімала маці.

* * *

Развучылася чакаць.
Я не ўмею.
Мне ніколі не сарваць
Цуд-лілею,
Мне ніколі не ўплясці
Яе ў косы…
Як цябе цяпер знайсці,
Хлопчык босы?
Не магу я ўжо чакаць.
Ты далёкі.
Як цябе цяпер дагнаць
За тры крокі?
Болей я і не зраблю.
Не здалею.
Кінь на росную зямлю
Цуд-лілею!
Я пабачу, што ты быў
Тут калісьці,
Вось і кветачку згубіў
У свежым лісці.
Забяру яе з сабой,

Каб уночы
Больш не кралі мой спакой
Твае вочы.
Калі ж Бог з’яднае зноў
Нашы лёсы,
Прыбяжыш ты сам дамоў,
Хлопчык босы.

* * *

Я літасці прашу тваёй,
Мой князь.
Я прыпаўзці не здолею.
Прабач.
Ты закрычы і пракляні,
Абразь!
Што хочаш! Толькі выслухай
Мой плач.
Я для цябе пакутаю
Была,
Маіх вачэй ты не забудзеш,
Не,
І позірк мой, што ліпне,
Як смала,
Ты не адмыеш ад сябе
І ў сне.
Я золатам нялёгкіх кос
Сваіх
Навечна прывязала,
Апляла.
Мячом сваім не рассячэш
Ты іх —
У грудзях тваіх жыве
Мая страла.
У галаве тваёй
Асенні дым.
У душы тваёй палаюць
Гарады.
Ты паланёны вогнішчам
Маім.
У крыві тваёй цвітуць
Мае сляды.
Гаркой рабінай вераснёвай
Я
Была і застануся
Для цябе.
Прабач. Віна мая.
Віна твая.
Віно, мой князь, паможа
У журбе…

## ЗЕЛЛЕ КАХАННЯ

Зелля назбіраю
І звяжу ў мяшэчак,
Каб ускінуў ранкам
Ты сабе на плечы,
Каб узяў з сабою
У доўгую дарогу
Усё маё каханне,
Вернасць і падмогу,
Каб ішоў рашуча,
Смела, пругка, лёгка,
Каб дажджы не білі,
Не паліла спёка,
Каб зямля калыскай
Ноччу калыхала,
Каб дарога ранкам
Ветла сустракала,
Каб ішоў і ведаў,
Што цябе чакаю
З кожнае сцяжынкі
Аж да небакраю,
Каб назад вярнуўся,
Са шляхоў не збіўся,
Каб да сэрца шчыра,
Светла прытуліўся.
Каб забыць не здолеў
Пра мяне ў дарозе,
Пакладу на плечы
Торбу на парозе.
Каб паспеў якраз ты,
Мілы, на вяселле,
Пакладу у торбу
Залатое зелле.

* * *

Калі гэта мая Беларусь,
Калі гэтыя рэкі, дубровы,
Сад і лес, каласоў перамовы,

Гонкі замак на ўзгор'і суровы
І камень, дзе прасечаны словы,
Што жыла і жыве Беларусь,

Калі гэта усё мне да скону
Богам дадзена, каб не забыць,
Каб цягнулася вечная ніць,
Каб узводзіць заўжды — не бурыць,
Тады я захаваю да скону

Каласы, галасы і крыніцы,
Гэты край, дзе за шчасце радзіцца.
Не патрэбен ніякі прымус,
Каб любіць, як жыццё, Беларусь.

* * *

Недзе птушка ў палёх загаласіла.
Раскажы мне, мілы, дзе цябе насіла?
Што за сцежкі ты звіваў ў адзін клубочак,
Што за зоры пільнавалі цябе ўночы,
Як забыў ты пра куточак свой сірочы,
Пра мяне і мой адчайны сум дзявочы.
Як цяпер глядзець ты будзеш мне ў вочы?

Недзе птушка ў палёх загаласіла.
Я душу тваю, як перайка, насіла
Асцярожна ў руках сваіх гарачых,
А цяпер я па табе бясконца плачу,
Бо нічога для цябе ўжо не значу,
Бо надзеі на сустрэчу я не трачу,
Бо люблю цябе да болю — не іначай.

Недзе птушка ў палёх загаласіла.
Раскажы мне, падкажы мне, дзе ты, мілы.
Ды маўчыш усё, і надыходзіць восень.
Недзе птушка ў палёх ізноў галосіць.

* * *

Жыта прыме лагодна.
Цёплае жыта пад вечар…
Дзякуй табе, што пагодна!
Дзякуй, што сэрца лечыш.
Дзякуй, што дождж у меру,
Дзякуй, што сонца ясна.
Дзякуй табе! Я веру:
Будзе ўвосень шчасна.
Дзякуй табе, што сілы
Не пакідаюць рукі.
Дзякуй, што рукі — крылы,
Што за дзядамі ўнукі.
Дзякую, Божа, што цяжкі
Шлях заканчэнне мае.
Дзякуй, што Колас важкі
Моцна зямлю трымае.

**ОДА ВЕРШУ**

Блаславляю свой верш на далёкі
палёт.
Лёгкіх крылаў табе і паменей нягод.
Ад душы адарву я цябе, як дзіця,
Слёзы сыдуць з вачэй, я ўзлячу
з небыцця.
Лепш услед не глядзець. Развітанне,
як лёд,
А на сэрцы застыў цэлы шэраг турбот.
У нашым ціхім жыцці лёгка
крылы зламаць,
Лёгка мару знайсці і так цяжка аддаць.
Я жадаю табе даляцець да нябёс,
Юны месяц злавіць і зайсціся ад слёз.
Блаславляю!

